**Гродна**
№ 15 (426),
23 жніўня 2015

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ





# РОСЬ – ГЭТА "САНАТОРЫЙ" ЕЗУСА, ГЭТА МЕСЦА ЦУДУ

**8 жніўня дыяцэзіяльны санктуарый Езуса Журботнага ў Росі прыняў шматлікіх пілігрымаў з Гродна, Свіслачы, Шылавічаў, Ваўкавыска, а таксама з іншых месцаў Гродзенскай дыяцэзіі і іншых дыяцэзій Беларусі. Упершыню сёлета была арганізавана пешая пілігрымка Масты–Рось.**

• працяг на с. 4



## Каляндар падзей

***24 жніўня***
*свята св. Барталамея.*
***26 жніўня***
*ўспамін МБ Чанстахоўскай.*
***1 верасня***
*76-я гадавіна выбуху II Сусветнай вайны. Даручаем Богу ў малітве ўсіх загінуўшых і ахвяр гэтай вайны.*
***4 верасня***
*ўспамін бл. с. Стэлы і 10-ці яе паплечніц, мучаніц з Навагрудка.*

## Запрашаем!

***"Сімвал веры"***
*Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-2"*
***31 жніўня***
***ў панядзелак у 18.05***
*пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.*

***Рэдакцыя газеты "Слова Жыцця" шукае спецыяліста з веданнем беларускай і польскай моў на пасаду перакладчыка. Звяртацца да 12 верасня бягучага года па тэлефоне: (8029) 637-07-17.***

## Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

***Ці будуць Вашы дзеці хадзіць на заняткі рэлігіі ў гэтым навучальным годзе?***

- *так, перад I св. Камуніяй*
- *так, да I св. Камуніі*
- *так, пасля Камуніі*
- *так, да канфірмацыі*
- *так, пасля канфірмацыі*
- *не, ім не хапае часу*
- *цяжка сказаць*




**"Хрысціянскае сведчанне канкрэтнае. Словы без прыкладу пустыя" – папа Францішак**




### XXI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Ян 6, 54. 60–69**

Навучаючы ў сінагозе ў Кафарнаум, Езус сказаў: "Хто спажывае Маё Цела і п'е Маю Кроў, Мае жыццё вечнае, І Я ўваскрашу яго ў апошні дзень".

Многія з вучняў Езуса казалі: "Цяжкая гэтая мова. Хто можа яе слухаць?". Але Езус, ведаючы, што вучні Ягоныя наракаюць на гэта, сказаў ім: "Ці гэта спакушае вас? А калі ўбачыце Сына Чалавечага, які будзе ўзыходзіць туды, дзе быў раней? Дух ажыўляе, цела ж ні на што не прыдатнае. Словы, якія Я кажу вам, ёсць духам і жыццём. Аднак ёсць між вас тыя, хто не верыць". Бо Езус ад пачатку ведаў, хто не верыць і хто Яго выдасць. І сказаў: "Для таго Я сказаў вам, што ніхто не можа прыйсці да Мяне, калі гэта не будзе дадзена яму Айцом". З гэтага часу многія вучні Ягоныя адышлі ад Яго і ўжо не хадзілі з Ім. Тады Езус сказаў Дванаццаці: "Ці вы таксама хочаце адысці?". Адказаў Яму Сымон Пётр: "Пане, да каго мы пойдзем? Ты маеш словы жыцця вечнага. А мы паверылі і спазналі, што Ты ёсць Святы Бога".

### ЗРАЗУМЕЦЬ ЕЗУСА Ў СВАІМ СЭРЦЫ

Фрагмент Евангелля паводле св. Яна, прачытаны сёння ў святынях, падкрэслівае тэму недахопу веры і цяжкасцей у слуханні Слова жыцця: "Цяжкая гэтая мова. Хто можа яе слухаць" (6, 60). Спакуса нявер'я пачынаецца тады, калі навуку Езуса і Касцёла мы прызнаём непрыемнай, нязгоднай з нашымі крытэрыямі, нязддольнай быць уведзенай у жыццё. Як спалучыць навуку Евангелля з нашым жыццём, нашым досведам зла, цярпення, складанасці Касцёла, дарэмнасці нашых намаганняў, пакут убогіх і безабаронных? Езус адказвае, паказваючы нам шляхі, якія аблягчаюць зразуменне веры.

Ён кажа перш за ўсё: "Ці гэта спакушае вас?" (6, 61). Розніца паміж вашай навукай і Маёй здаецца вам занадта вялікай, каб прыняць яе? "А калі ўбачыце Сына Чалавечага, які будзе ўзыходзіць туды, дзе быў раней?" (6, 62). Гэта заахвочванне да пашырэння поля бачання. Вельмі часта цяжкасці ў веры з'яўляюцца таму, што людскія погляды супярэчаць навуцы веры, але ў пэўнай абмежаванай сферы. Мы павінны часцей слухаць Бога.

### XXII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Мк 7, 1–8. 14–15. 21–23**

Сышліся разам да Езуса фарысеі і некаторыя з кніжнікаў, якія прыйшлі з Ерузалема. І ўбачылі, што некаторыя вучні Ягоныя елі хлеб нячыстымі, гэта значыць, неабмытымі рукамі. Фарысеі ж і ўсе юдэі, трымаючыся традыцыі старэйшых, не ядуць, пакуль старанна не памыюць рук. І вярнуўшыся з рынку, не ядуць, пакуль не абмыюцца. Ёсць і яшчэ шмат таго, чаго прынята трымацца: абмыццё кубкаў, і збаноў, і місаў, і лавак. Тады пытаюцца ў Яго фарысеі і кніжнікі: "Чаму вучні Твае не трымаюцца традыцыі старэйшых, але ядуць хлеб нячыстымі рукамі?". Ён адказаў ім: "Добра прарочыў Ісая наконт вас, крывадушных, як напісана: «Народ гэты шануе Мяне вуснамі, а сэрцы іх далёка ад Мяне. Але марна пакланяюцца Мне, навучаючы вучэнню чалавечых запаведзяў». Бо вы пакінулі запаведзь Божую, а трымаецеся чалавечай традыцыі". Потым зноў паклікаў народ і сказаў яму: "Слухайце Мяне ўсе і разумейце. Няма нічога, што магло б, уваходзячы звонку ў чалавека, зрабіць яго нячыстым, але тое робіць чалавека нячыстым, што выходзіць з яго. Бо знутры, з чалавечага сэрца, выходзяць благія думкі, распуста, крадзеж, забойствы, зайздрасць, чужалоства, сквапнасць, зласлівасць, падступнасць, бессаромнасць, блюзнерства, пыха, глупства. Усё гэтае зло знутры выходзіць і робіць чалавека нячыстым".

### МЫ Ў ШКОЛЕ ЕЗУСА

Існуе Хтосьці, хто вучыць нас, як трэба дзейнічаць, як уваходзіць у чарговыя этапы зразумення і чысціні, прытым не толькі цялеснай, але, галоўным чынам, належнай – духоўнай. Гэта наш Пан Езус Хрыстус, які кажа нам: "Слухайце Мяне ўсе і разумейце. Няма нічога, што магло б, уваходзячы звонку ў чалавека, зрабіць яго нячыстым, але тое робіць чалавека нячыстым, што выходзіць з яго. (...) Бо знутры, з чалавечага сэрца, выходзяць благія думкі, распуста, крадзеж, забойствы, зайздрасць, чужалоства, сквапнасць, зласлівасць, падступнасць, бессаромнасць, блюзнерства, пыха, глупства. Усё гэтае зло знутры выходзіць і робіць чалавека нячыстым" (Мк 7, 14–15. 21–23). Застаецца толькі пытанне: як паступаць, каб жыць згодна з навучаннем. Але гэта залежыць толькі і выключна ад нашага сумлення і разумення Божага слова.

*Кс. Павел Салабуда*

# Мой Сябар – Езус

СЛОВА РЭДАКТАРА



*Кс. Павел Салабуда*

Многім з нас вядома выказванне: "Пакажы мне сваіх сяброў, і я скажу табе, хто ты". Мы маем розных сяброў. Часцей за ўсё нас цешыць факт, што іх шмат, што яны могуць нам дапамагчы, калі нам будзе гэта неабходна. Аднак, нават калі іх толькі некалькі, але сапраўдных, мы можам заўсёды сказаць, што мы не адзінокія. Ад паводзін нашых сяброў залежыць многае: нашы радасць і супакой, планы на будучыню і мары, змена паводзін і манеры. Сябар – як скарб, які можа ўзбагаціць нашае жыццё.

Я вельмі часта чую, асабліва ад маладых людзей, што Езус – іх Сябар. Я адношу гэта таксама да сябе і да кожнага веруючага чалавека, які можа дазволіць сабе такія словы. Але ці разумеем мы, што гэта за сяброўства? Чаго Езус хоча ад нас? Ці здольны мы да такога сяброўства з Езусам? Ці гэта проста словы, якія нічога не значаць? Давайце паспрабуем задумацца над гэтым у сваім сэрцы, бо менавіта яно становіцца платформай сяброўства з Богам.

Лепш за ўсё на тэму сяброўства з Езусам Вы скажаце самі. Кожны з нас перажывае гэтае сяброўства па-свойму, таму я прывяду некалькі Вашых разважанняў на гэтую тэму. Маладая дзяўчына сказа: "Быць сябрам Езуса – значыць даручыць Яму самога сябе, ахвяраваць давер, малітву, а перш за ўсё, дзейнічаць паводле Яго запаведзей. Каб быць сябрам Езуса, трэба ў Яго верыць, пакладаць у Ім надзею, але найперш паступаць годна і міласэрна". Чалавек сярэдняга ўзросту думае так: "Каб быць сябрам Езуса, мы павінны жыць паводле Яго запаведзей, прытрымлівацца правіл і старацца, каб Езус ацаніў нашыя намаганні". Чалавек старэйшы ў задуме таксама адказа: "Калі мы кажам пра некага «сябар», мы маем на ўвазе кагосьці блізкага, кагосьці, каму можна даверыцца, паверыць; кагосьці, хто дапаможа, не пакіне нас у цяжкія хвіліны. Часта бывае таксама, што сябрам з'яўляецца хтосьці, хто апраўдвае нашыя чаканні, ведае нашыя патрэбы і можа з імі справіцца. Менавіта такім Сябрам з'яўляецца Езус".

**Трэба памятаць, што сяброўства абавязвае. Нішто не прынясе Езусу большай радасці, чым плён гэтага сяброўства ў жыцці кожнага з нас. Варта змяніць наш спосаб мыслення і паставіць Езуса на першае месца. Пра сяброўства, пра адносіны з сябрам трэба клапаціцца. Некаторыя параўноўваюць сяброўства з раслінай, якая без вады і клапатлівай апекі засыхае. Памятаючы пра нядзельную Эўхарыстыю, святую споведзь, слуханне Божага слова і рэгулярную малітву, дбайма пра сяброўства. Сакраманты дапамагаюць нам быць чыстымі, дзякуючы ім Божая любоў уліваецца ў нашыя сэрцы без перашкод. А Езус становіцца для нас найважнейшым Сябрам. А можа яшчэ хто-небудзь паспрабуе апісаць сваё сяброўства з Езусам?**

ДЭКАНАТ Радунь

# Воранава

***Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі***



*Знешні выгляд святыні*

Паселішча ўпершыню ўзгадваецца ў XVI ст. пад назвай Балотна, Блотна – ад мясцовай рэчкі Балатнянка, якая сёння ўжо ператварылася ў ручай. На пачатку XVII ст. гэта ўжо мястэчка, таксама ўзгадвецца як Верэнова, Воранаў. Належала Гаштольдам, Масевічам, Зарэцкім, Сцыпіёнам.

Касцёл быў заснаваны тут у першай палове XVI ст. па фундацыі магната Гаштольда, тагачаснага ўладальніка Блотны. Новы драўляны касцёл на цэнтральнай плошчы мястэчка быў пабудаваны ў 1705 г. на сродкі мсціслаўскага ваяводы Аляксандра Яна Масевіча, святыня была асвечана пад тытулам святых апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша.

У XVIII ст., калі Воранава было ва ўладанні роду Сцыпіёнаў, мястэчка атрымала статус цэнтра староства. У 1735 г. каштальян смаленскі і ўладальнік Воранава Ян Сцыпіён дэль Кампа (+1738, ён жа фундатар дамініканскага кляштара ў Канюхах Ваўкавыскага дэканата) і ягоны сын Юзаф, староста лідскі, адкрылі тут школу і калегіюм ордэна піяраў. Па фундацыі воранаўскага кляштару ў маёмасць перадаваўся маёнтак Лапацызна з вёскай Вільканцы і ахвяравалася 50000 злотых. Аднак праз 20 гадоў, у 1756 г., па распараджэнні адукацыйнай камісіі піяры былі пераведзены ў Ліду.

Драўляны парафіяльны касцёл, той, што пабудаваў яшчэ Масевіч, дзейнічаў у Воранаве да Другой сусветнай вайны. Гэта быў трохнававы прамавугольны ў плане безвежавы храм з трохвугольным франтонам над галоўным фасадам, які фланкавалі дзве гранёныя вежачкі. Злева ад касцёла асобна стаяла двух'ярусная таксама драўляная шатровая званіца. Касцёльны комплекс быў абнесены бутавай агароджай з трохпралётнай цаглянай і атынкаванай уваходнай брамай.

Іншых святынь на той час у воранаўскай парафіі не было. Колькасць парафіян дасягала амаль 4000.

У 1940 г. Воранава атрымала статус цэнтра аднайменнага раёна Гродзенскай вобласці. У 1967 г. старажытны касцёл быў знішчаны, сёння на гэтым месцы знаходзіцца будынак клуба.

Адраджэнне парафіі пачалося толькі ў канцы 1980-х гг. Восенню 1990 г. распачалося будаўніцтва новага велічнага дзвюхвежавага касцёла з сілікатнай цэглы. У 1994 г. у святыні прайшло першае набажэнства, аднак будаўніцтва працягвалася і далей. 19 мая 2002 г. касцёл пад тытулам Божай Міласэрнасці ўрачыста кансэкраваў гродзенскі біскуп Аляксандр Кашкевіч. Гістарычны тытул святых апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша захавала воранаўская парафія.

Касцёл пабудаваны за парафіяльныя могілкамі ў эклектычным стылі, прамавугольны ў плане з такой жа апсідай, галоўны фасад фланкаваны дзвюма чацверыковымі шатровымі вежамі. Інтэр'ер, падзелены чатырма парамі апор на тры навы, перакрыты плоскай падшыўной дашчанай столлю на бетонных бэльках. Перагародка ў выглядзе дасабаровага алтара выдзяляе за прэзбітэрыем сакрыстыю. У святыні тры алтары: галоўны – Божай Міласэрнасці, левы бакавы – Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса, правы – Маці Божай Фацімскай, над уваходам зроблены хоры.

Сёння да воранаўскай парафіі адносіцца новая капліца ў Паляцкішках. З 1993 г. у парафіі працуюць сёстры палацінкі, з 1999 г. у комплекс касцёла ўваходзіць іх манаскі дом (аднапавярховы з мансардай) з капліцай св. Міхала Арханёла. Дзейнічае ў парафіі і "Карытас", які месціцца ў плябаніі, дзе таксама ёсць капліца. Парафіяй апекуюцца ксяндзы палаціны.



*Галоўны алтар*

# Марыя – наша Нябесная Маці

**10-ю гадавіну каранацыі цудатворнага абраза Маці Божай Кангрэгацкай адзначылі ў Гродне. Ва ўрачыстасцях, якія адбыліся ў касцёле св. Францішка Ксаверыя, прынялі ўдзел шматлікія вернікі, якія дзякавалі Марыі за ўсе атрыманыя праз Яе заступніцтва ласкі.**



Ужо традыцыйна духоўная падрыхтоўка да ўрачыстасці пачалася 4 жніўня святой Імшой і адарацыяй Найсвяцейшага Сакраманту. Затым апоўначы ў катэдры была адпраўлена святая Імша пад кіраўніцтвам кс. б-па Юзафа Станеўскага. У сваёй гаміліі іерарх адзначыў, што сёлетнія ўрачыстасці маюць выключны характар, паколькі яны звязаны з 10-й гадавінай каранацыі цудатворнага абраза Маці Божай Кангрэгацкай.

*“Вернікі Гродна заўсёды знаходзяць час, каб прыйсці і памаліцца пры абразе Маці Божай Кангрэгацкай, даручаюць Марыі свае сем’і, выпрошваюць патрэбныя ласкі. Маці Божая Кангрэгацкая ніколі не самотная, Яна заўсёды вядзе дыялог з чалавекам”,* – сказаў кс. бп Юзаф.

Пасля набажэнства было адноўлена сутачнае чуванне, у якім прынялі ўдзел асобныя парафіі



У 10-ю гадавіну каранацыі цудадзейнага абраза МБ Кангрэгацкай маліліся за сем’і, дзяцей і моладзь, а таксама за ўсіх вернікаў Гродна і ваколіц

горада.

Вечарам наступнага дня была адпраўлена адпуставая святая Імша, падчас якой вернікі дзякавалі Найсвяцейшай Панне Марыі ў Яе цудоўным абразе за ўсе атрыманыя ласкі і маліліся аб умацаванні веры і вернасці Богу для кожнага чалавека.

Да шматлікіх вернікаў, якія сабраліся на Імшы, з гаміліяй звярнуўся кс. бп Аляксандр Кашкевіч. Іерарх расказаў сярэднявечную легенду пра караля і яго дачку. Прынцэса павінна была атрымаць у спадчыну ўсё каралеўства, таму каралю было вельмі важна, каб яна выбрала добрага мужа. Кароль абвясціў, што патэнцыяльны кандыдат на зяця павінен прынесці жамчужыну, якая была б большай за тую, што ёсць у каралевы. Адазвалася мноства кавалераў, але ніхто не прынёс большай і прыгажэйшай жамчужыны. Тады кароль, страціўшы цярплівасць з-за празмернай колькасці смельчакоў, выдаў распараджэнне: той, хто з’явіцца, але не выканае ўмовы, будзе пакараны смерцю. Пілігрымкі маладзёнаў у каралеўскі палац адразу спыніліся. Праз некаторы час у горад прыехаў чужаземны рыцар. Паколькі ён быў адважны, мудры і разважлівы, ён вельмі спадабаўся каралю. Калі кароль даведаўся, што рыцар плануе прыняць удзел у конкурсе і дабівацца рукі прынцэсы, ён рашуча яго адгаворваў. Кароль не хацеў, каб рыцар быў асуджаны на смерць. Але той не адступаў. Ён папрасіў тры дні і вярнуўся са старой маршчыністай жанчынай, сівой, як голуб. З любоўю і павагай рыцар узяў яе за руку, падышоў да караля і сказаў, што гэта яго маці і яна – самая каштоўная і прыгожая жамчужына. Кароль узрушыўся, бо прыгадаў сабе сваю ўжо памерлую маці, і дазволіў рыцару ажаніцца з прынцэсай, а разам з ёй аддаў яму ўсё сваё каралеўства.

*“Гэтая прыгожая і кранальная легенда прыгадвае нам, што няма на свеце больш ахвярнай, адданай і бескарыслівай любові, чым любоў маці. У сэрцы кожнага чалавека мама займае асаблівае месца. Да яе мы прыходзім са сваімі радасцямі, смуткамі, клопатамі і цярпеннямі. У яе шукаем парады і падтрымкі. І нават калі пасля цяжкасцей зямнога жыцця маці адыдзе ў вечнасць, мы ўсё роўна далей адчуваем яе блізасць, бо яна прысутнічае ў нашых малітвах, думках і ўспамінах”,* – казаў ксёндз біскуп. *“Пан Езус, сапраўдны Бог і адначасова сапраўдны чалавек, таксама меў сваю маці, і для Яго, як і для кожнага чалавека, Марыя была самай блізкай і дарагой асобай на зямлі. І хоць з Евангелля мы не многае даведваемся пра Яе зямное жыццё, пра пачуцці, якімі Яна адорвала Сына, не выклікае сумненняў, што паміж Езусам і Марыяй існавала асаблівая сувязь любові, удзячнасці і пашаны. Сярод малітваў, якія Езус узносіў да Нябеснага Айца, сталай была малітва ўдзячнасці за дар Маці, якую Пан Бог выбраў як свой шэдэўр яшчэ да стварэння свету”.*

Кс. бп Аляксандр таксама падкрэсліў, што Марыя з’яўляецца дарам для Езуса, а згодна з Яго воляй, стала дарам таксама для кожнага з нас. Ужо на працягу дзвюх тысяч гадоў хрысціянскі люд ушаноўвае Марыю як сваю Маці. Сведчаць пра гэта незлічоныя касцёлы і капліцы, прысвечаныя Ёй, цудоўныя малітвы і песні, напісаныя ў Яе гонар, вядомыя сваімі ласкамі абразы і фігуры Маці Божай, рассеяныя па ўсім свеце, марыйныя санктуарыі, у якія накіроўваюцца пілігрымы, каб праслаўляць Найсвяцейшую Маці і прасіць Яе аб заступніцтве ў сваіх патрэбах.

*“І хоць людзі ўшаноўваюць Марыю пад рознымі тытуламі і вызнаннямі, сутнасць марыйнай пабожнасці заўсёды тая самая. Мы верым, што Марыя з’яўляецца нашай Нябеснай Маці, і з даверам просім Яе заступніцтва, каб Яна малілася за нас”,* – сказаў іерарх.

Ужо больш за тры з паловай стагоддзі вернікі Гродна і ваколіц усхваляюць Марыю ў цудатворным абразе. Маці Божая Кангрэгацкая з’яўляецца заступніцай не толькі студэнтаў, Яна адорвае сваёй мацярынскай любоўю кожнага, хто з верай да Яе прыходзіць. Захаваліся сведчанні шматлікіх цудаў і ласкаў, атрыманых праз Яе заступніцтва. Пра магутнасць заступніцтва Марыі сведчыць таксама вялікая колькасць вотаў, змешчаных каля абраза. Але мы ведаем, што не ўсе цуды былі запісаны, не кожны адораны ласкамі склаў пра гэта сведчанне. Большасць цудаў і ласкаў назаўсёды застанецца таямніцай, вядомай толькі Богу.

*“Сабраныя ля ног Марыі, прысутнай у гэтым цудатворным абразе, мы дзякуем Пану Богу за цудоўны дар Найсвяцейшай Панны Марыі. Дзякуем за тое, што маем да каго звяртацца ў кожнай нашай патрэбе, маем каму даручаць усе нашыя клопаты і нягоды нашых сэрцаў”,* – заахвоціў сабраных вернікаў кс. бп Аляксандр Кашкевіч. *“Мы можам быць упэўнены, што Марыя не пакіне нас адных, не пакіне ў складаных хвілінах жыцця, таму ў Яе мацярынскіх абдымках мы заўсёды адчуваем сябе так добра, бяспечна і шчасліва. Кожная маці прагне шчасця для сваіх дзяцей. Марыя як наша Нябесная Маці клапоціцца перш за ўсё пра наша збаўленне, таму Яна дае нам сваю мацярынскую параду. Ідучы праз жыццё, мы павінны слухаць Езуса і паступаць паводле Яго навукі. Тады мы не заблукаем і бяспечна дабярэмся да мэты нашай зямной пілігрымкі”,* – падсумаваў іерарх.



Падчас працэсіі з копіяй цудатворнага абраза

На заканчэнне ўрачыстасці адбылася працэсія з копіяй абраза Маці Божай Кангрэгацкай.

***Кінга Красіцкая***

---

# Слова для жыцця

**Папа Францішак**



*Не дастаткова сустрэць Езуса, каб паверыць у Яго, не дастаткова чытаць Біблію, Евангелле; не дастаткова нават быць сведкам цуду. Многія былі ў блізкіх адносінах з Езусам і не паверылі Яму, больш таго, яны пагардзілі Ім і асудзілі. Так стала, таму што іх сэрцы былі закрытыя на ўздзеянне Святога Духа. А вера, якая падобна на зярнятка, кінутае ў глебу сэрца, прарасце, калі мы дазволім, каб Айцец “прыцягнуў” нас да Езуса, і “пойдзем з Ім” з адкрытай душой, без забабонаў; тады мы распазнаем у Яго абліччы аблічча Бога і ў Яго словах – Божае слова, таму што Святы Дух дазволіў нам увайсці ў адносіны любові і жыцця, якія існуюць паміж Езусам і Богам Айцом.*

*“Анёл Панскі” са Святым Айцом, 09.08.2015*

**Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч**



*Бог дае нам Слова жыцця, дзякуючы якому чалавек пачынае жыць лепей. Перастае баяцца, бо ведае, што можа даверыць свой лёс Богу. Такім спосабам Бог прыцягвае нас да сябе. Ён паказвае, як выйсці з пасткі страху і смерці, даючы надзею ўваскрасення. Такая надзея – гэта не матэматычная пэўнасць ці фізічны доказ уваскрасення. Некаторыя патрабуюць такой пэўнасці і шукаюць яе ў парапсіхалогіі, спірытызме, рэінкарнацыі і г.д. Але гэта дарэмная праца. Бога ніхто і ніколі не бачыў, акрамя Сына, які нам Яго аб’явіў. Таму, хто становіцца вучнем Бога, хто Яму давярае, не патрэбны ніякія доказы, акрамя сваёй веры. Езус кажа, што хто верыць у Яго, той мае жыццё вечнае.*

*Такім чынам, могуць быць два шляхі – з Богам і без Яго. Неабходна толькі зрабіць адпаведны выбар і ведаць, якія наступствы ў гэтага выбару, каб не мець ілюзій наконт сваёй будучыні. Аб гэтым неабходна памятаць, каб наша жыццё мела сэнс і шчаслівую вечнасць.*

*Фрагмент гаміліі ў XIX Звычайную нядзелю*




◆ Колькасць наведвальнікаў павільёна Апостальскай Сталіцы на сусветнай выставе "EXPO 2015" перавысіла 600 тысяч чалавек. Штодня гасцямі ватыканскай экспазіцыі становяцца каля 10-11 тысяч чалавек. Тэма сёлетняй выставы – "Накарміць планету. Энергія для жыцця". Экспазіцыя Апостальскай Сталіцы раскрывае чатыры галоўныя тэмы: экалогії, салідарнасці ў эканоміцы, выхавання, а таксама хлеба як прадукту, што робіць бачнай прысутнасць Бога ў свеце. Наведвальнікаў выставы цікавяць інтэрактыўны стол, фатаграфіі і відэаматэрыялы на тэму стварэння. "EXPO 2015" праходзіць у Мілане з 1 мая па 31 кастрычніка.

◆ Папа Рымскі Францішак атрымаў узнагароду "Абаліцыяніст года" за ўклад у справу адмены смяротнага пакарання. У прадстаўніцтве арганізацыі "Hands Off Cain", якая заснавала гэтую ўзнагароду, адзначылі, што дзейнасць Пантыфіка пачалася з адмены пажыццёвага тэрміну зняволення і ўключэння ў крымінальнае заканадаўства Ватыкана пакарання за катаванні. Гэта гаворыць аб тым, што Папа не толькі супраць смяротнага пакарання, але і супраць пажыццёвага пазбаўлення волі. Узнагарода – гэта бронзавая статуэтка працы Масіма Ліберці. Фігурка ўяўляе сабой планету, на якой сядзяць дзеці, імкнучыся ўзляцець у нябёсы.

◆ У Варшаве адбылося навучанне першай групы святароў, якія пакліканы для аказання дапамогі ахвярам сексуальнай эксплуатацыі, іх сем'ям і касцёльным супольнасцям. Сярод 14-ці ўдзельнікаў 4 з Беларусі. Святары праслухалі лекцыі на тэму метадаў дзейнасці віноўнікаў злоўжыванняў, а таксама душпастарскіх вынікаў для парафіі ці асяроддзя, у якім гэтыя падзеі адбыліся. Праграма навучання ўключала і практычныя заняткі. Удзельнікі семінараў сустрэліся з ахвярамі сексуальнай эксплуатацыі, мелі магчымасць іх выслухаць і паразмаўляць асабіста. Акрамя ўсяго, было закранута пытанне аб парафіяльнай супольнасці як ахвяры ў дадзенай сітуацыі. Арганізатарам трэнінгу выступіў Цэнтр па абароне дзяцей, які працуе пры ігнацыянскай акадэміі ў Кракаве.

◆ Другі год запар манахі з місіянерскага францысканскага цэнтра Братоў Меншых канвентуальных выходзяць на беразе Тыбра, каб сустрэцца з жыхарамі і гасцямі Рыма. На працягу трох летніх месяцаў манахі штодня размаўляюць з людзьмі, выслухоўваюць іх праблемы. Місіянеры раздаюць буклеты з інфармацыяй аб Ордэне і прапануюць жадаючым адправіць паштоўку самаму Святому Айцу.

◆ У ЗША з 15 жніўня па 7 кастрычніка пройдзе акцыя пад назвай "54 дні малітвы аб шлюбе і сям'і". Ініцыятарам супольнай малітвы выступіла Апостальства святога Ружанца для евангелізацыі на чале з духоўным настаўнікам арцыбіскупам Мілуокі монс. Джэромам Лістэцкі. У пасланні, накіраваным да ўсіх біскупаў ЗША, монс. Лістэцкі падкрэслівае, што "перад тварам духоўнага крызісу сучаснай культуры мы ўсе маем патрэбу ў заступніцтве Найсвяцейшай Панны Марыі". Малітоўная акцыя запланавана напярэдадні Сусветнай сустрэчай сем'яў, якая адбудзецца ў Філадэльфіі з 22 па 27 верасня, і Генеральнага Сіноду па пытаннях сям'і, які пройдзе ў Ватыкане з 4 па 25 кастрычніка гэтага года.

*Ватыканскае радыё; ekai.pl; credo-ua.org; katolik.ru*

***Ангеліна Пакачайла***

# Рось – гэта "санаторый" Езуса, гэта месца цуду

● працяг са с. 1

На апошнім этапе падарожжа да пілігрымкі Гродна–Рось далучыўся дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

Найбольш хвалюючым стаў уваход пілігрымаў у санктуарый і хвіліна асабістай малітвы, калі кожны можа даверыць Богу свае справы. Не менш узрушаючым быў і момант, калі перад уваходам у святыню гродзенскія пілігрымы ляглі крыжам на асфальце.

У гэтыя, здаецца, найважнейшыя хвіліны пілігрымавання ў вачах многіх можна было ўбачыць слёзы радасці. У гэтых слязах, нават у хлопцаў, заўважалася вялікае ўзрушэнне.

Пасля пройдзеных кіламетраў, пасля цяжкай дарогі і доўгага чакання сустрэчы, Езус Міласэрны з вышыні алтара глядзіць на кожнага пілігрыма, пранікаючы сваім позіркам у душу чалавека...

Вячэрнюю св. Імшу для пілігрымаў узначаліў біскуп Юзаф Станеўскі.

*"Мы прыходзім у гэты санктуарый як да крыніцы, каб зачарпнуць чыстай вады, каб узмацніць і адчуць нашу годнасць Божага дзіцяці"*, – адзначыў біскуп у гаміліі. Разважаючы над цярпеннем Езуса Хрыста, а таксама над людскім цярпеннем, іерарх дадаў: *"З Хрыстом усё мае сэнс, а менавіта момант цярпення, пакуты і смерці"*. Паводле слоў біскупа, сэнс пакуты і людскога цярпення варта шукаць у крыжы Хрыста, які з'яўляецца "тварам неспасцігальнай любові Бога да чалавека".

Затым пілігрымы выслухалі канферэнцыю, якую да прысутных скіраваў кусташ санктуарыя кс. Чэслаў Паўлюкевіч. Святар заахвоціў вернікаў адкрыцца на Божае дзеянне, каб Святы Дух знайшоў сваё месца ў іх сэрцах і кожны дзень вёў іх дарогай збаўлення.

Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту і акт аддання Найсвяцейшай Панне Марыі завяршылі першы дзень урачыстасцей у санктуарыі.

9 жніўня ўрачыстую святую Імшу для шматлікіх пілігрымаў ўзначаліў ардынарый дыяцэзіі кс. бп Аляксандр Кашкевіч. У Імшы ўдзельнічалі вернікі з розных месцаў дыяцэзіі, частка з якіх прыйшла ў пешых пілігрымках.

Звяртаючыся да пілігрымаў, іерарх адзначыў, што жыццё чалавека – гэта пастаянная пілігрымка. *"Праз наша зямное пілігрымаванне нам трэба заслужыць вечнае жыццё"*, – дадаў біскуп. Іерарх назваў санктуарый "духоўным санаторыем", бо тут можна знайсці ўсё, што патрэбна для душы і цела. *"Езус Хрыстус з сумным тварам глядзіць сёння на ўсіх нас, якія Яго тут адведваюць, і кажа нам: «Вучыцеся ад Мяне, бо Я ціхі і пакорны сэрцам»"*, – сказаў гродзенскі ардынарый.

Біскуп Аляксандр на заканчэнне сёлетніх урачыстасцей у санктуарыі Езуса Журботнага ў Росі адзначыў, што хацеў бы, каб да цудатворнай фігуры Езуса, вядомай сваімі ласкамі ўжо больш за 400 гадоў, скіроўваліся вернікі ў пешых і аўтобусных пілігрымках з усіх парафій дыяцэзіі і з-за мяжы.

*"Я прагну, каб сюды пілігрымавала ўся дыяцэзія"*, – падкрэсліў гродзенскі ардынарый.

Кусташ санктуарыя кс. Чэслаў Паўлюкевіч падзякаваў усім пілігрымам за прынятую працу пілігрымавання і запэўніў, што дзверы санктуарыя заўсёды адчынены, а таксама заахвоціў наведваць гэтае святое месца часцей.

Апошнім пунктам урачыстасцей стаў канцэрт гурта супольнасці Душпастарства студэнцкай і працуючай моладзі "OPEN" Гродзенскай дыяцэзіі, падчас якога пілігрымы праслаўлялі Бога праз спеў.

***Кс. Юрый Марціновіч***



Кс. бп Аляксандр Кашкевіч вітае ўдзельнікаў урачыстасцей



Падчас вячэрняй Імшы для пілігрымаў



Санктуарый у Росі стаў для вернікаў месцам, дзе яны могуць адчуць асаблівую прысутнасць Бога

# Кс. Чэслаў Паўлюкевіч:



***Пра культ Езуса Журботнага, пра жыццё і цуды ў роскім санктуарыі, а таксама пра будаўніцтва новага рэкалекцыйнага дома з кусташам санктуарыя Езуса Журботнага ў Росі кс. Чэславам Паўлюкевічам размаўляў кс. Павел Салабуда.***

**Як перажываліся штогадовыя ўрачыстасці на пачатку жніўня?**

У гэтым годзе ў канцы ліпеня – жніўні ў нашым санктуарыі па традыцыі павінны былі адбыцца "летнія рэкалекцыі", гэтым разам з айцом Джонам Башаборам. На жаль, яны не адбыліся, што вельмі засмуціла многіх. Але вядома, што ў Бога кожны смутак можа ператварыцца ў радасць. Мы верым, што ў гэтым годзе адбудуцца "восеньскія рэкалекцыі" 12–13 верасня з ксяндзом Янам Рэчэкам. А каб Рось не была "пустой і безжыццёвай", Езус у гэтым годзе паклікаў да сябе летам у два разы больш пілігрымаў. Да 14-й пілігрымкі з Гродна, Ваўкавыска і Свіслачы далучылася першая пілігрымка з Мастоў. Да пілігрымаў далучылася таксама некалькі асоб з Вільні, Астраўца, Шчучына і іншых мясцовасцей. Бог дзейнічае рознымі спосабамі.

**Як Вы заўважылі, усё больш пілігрымак прыбывае ў гэтае асаблівае месца. З якімі інтэнцыямі людзі прыходзяць сюды?**

Я веру, што многія пілігрымы перажылі рэкалекцыі ў дарозе, калі Пан дакрануўся да іх сэрцаў сваёй ласкай праз слуханне канферэнцый, сустрэчу з братам ці сястрой, праз цяжкасць хады, а можа, асабліва ў гэтым годзе, праз жар сонечных прамянёў. Сёлета на тварах усіх пілігрымаў немагчыма было не заўважыць акрамя




# Бог адкрывае сэрца і пранікае ў душу



*Сёння сваю гісторыю распавядае сястра Лілія з Кангрэгацыі Сясцёр Служак Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.*

## З вялікай дружнай сям'і

Сястра Лілія паходзіць з Украіны, з мястэчка Грудэк. Выхоўвалася ў вялікай сям'і разам з трыма братамі і шасцю сёстрамі. Маці займалася хатнімі справамі і даглядала дзяцей, бацька працаваў кіроўцам.

З дзяцінства дзяўчынка ведала ўсе малітвы. Асновы веры ёй перадалі маці і бабуля.

Пасля школы скончыла тэхнікум у Харкаве. Накіравалася ў Крым. А праз год – у Сібір.

*"У мяне ёсць сястра-блізнюк. І мы заўсёды былі разам. А калі апынуліся ў розных гарадах, нам стала не хапаць адна адной. Хацелася больш камунікаваць, быць побач. Двайняты, вядома, маюць больш цесную сувязь, чым звычайныя брат ці сястра... І я прыехала да яе ў Нягань".*

## Твой Творца ёсць муж твой

Хутка сястра выйшла замуж. Ліля, як і ўсе маладыя дзяўчыны, таксама хацела стварыць сваю сям'ю і вырашыла памаліцца ў гэтай інтэнцыі. Узяла сабе пост, закрылася ў пакоі і стала на калені.

*"Пане, я б хацела быць добрай жонкай, добрай маці. Дай мне добрага мужа, каб быў верны, веруючы, каб мы мелі нешта агульнае і маглі разам маліцца".*

Узяла ў рукі Біблію і папрасіла Бога адказаць ёй. Калі адкрыла Святое Пісанне, трапіла на 54-ы раздзел кнігі прарока Ісаі, 5-ы верш: "Бо твой Творца ёсць муж твой; Гасподзь Саваоф – імя Яго, і Адкупіцель твой – Святы Ізраілеў: Богам усёй зямлі назавецца Ён".

Дзяўчына нічога не зразумела, закрыла Біблію і выйшла са свайго пакоя. Але хутка вярнулася і зноў стала на калені.

*"Пане, я б хацела быць добрай жонкай, добрай маці. Дай мне добрага мужа".*

Узяла ў рукі Біблію і адкрыла той самы верш з 54-га раздзела кнігі прарока Ісаі. Пасля прачытанага дзяўчына адчула сябе няёмка і падумала, што Бог не ведае яе. Прамовіла: *"Пане, я вялікая грэшніца. Вазьмі сабе святую".* І закрыла Біблію. Выйшла з пакоя, але вярнулася. І ў трэці раз узяла ў свае рукі Святое Пісанне. Адчувала, што Бог зноў адкрые ёй той самы верш. Так і сталася.

Дзяўчына ўсур'ёз задумалася: касцёла ў Нягані няма, што ж ёй рабіць? Паехала за тысячу кіламетраў на сустрэчу з ксяндзом у Цюмень. Пасля размовы аб яе пакліканні святар сказаў: *"Ліля, ведаеш што, я буду за цябе маліцца, каб ты выйшла замуж. Едзь дадому".*

І дзяўчына вярнулася.

## Як у сне

Мінуў год. Увесь гэты час дзяўчына думала пра тое, як складзецца яе далейшае жыццё. Аднойчы ўвечары яна ўзяла з палічкі кнігу. Адкрыла яе і прачытала: "Едзь туды, куды Я табе наказаў, таму што ўсё жыццё ты ідзеш супраць Маёй волі". Дзяўчына спалохалася і адкінула кнігу.

*"Пане, супраць Тваёй волі? Не, ніколі! Усё, што заўгодна, толькі не гэта".*

Другі раз Ліля паехала да ксяндза ў Цюмень. Выслухаўшы дзяўчыну, святар прапанаваў ёй застацца ў горадзе, пахадзіць у касцёл. Ён жа будзе назіраць за ёй і прыглядацца, ці сапраўды дзяўчына мае пакліканне. Ліля адказала згодай.

Але дзе спыніцца? І тут дзяўчына ўспомніла пра аднаго свайго знаёмага, які абяцаў дапамагчы ёй з жыллём, калі на тое будзе патрэба. Ліля патэлефанавала яму на працу. Высветлілася, што мужчына паехаў у тайгу і будзе толькі праз два месяцы. Дзяўчына засмуцілася і звярнулася да Бога: *"Калі Ты сапраўды хочаш, каб я прысвяціла сябе Табе, зрабі так, каб мой знаёмы прыехаў і даў мне ключы ад дома. Бо куды я паеду? Дзе буду жыць?".*

Лягла спаць. А ноччу ёй прысніўся сон.

*"Падыходжу я да яго дома. Дзверы адчынены. Заходжу, клічу яго. Бачу, выходзіць мне насустрач і пытае, што здарылася. Я кажу, што мне трэба пажыць у Цюмені, і прашу даць ключы ад яго дома. Ён адказвае: «Ліля, без праблем». Падыходзіць да шафы, з кішэні жакета дастае ключы і кладзе іх мне на далонь".*

Дзяўчына прачнулася ў добрым настроі і вырашыла пайсці наведацца да знаёмага. Прыходзіць – і ўсё здараецца як у сне: дзверы адчынены, дзяўчына яго кліча, яны размаўляюць, знаёмы кажа тыя ж словы і дастае ключы з таго ж месца, дзе яна бачыла ў сне.

*"Гэта быў для мяне вельмі ясны знак – мяне вядзе Бог".*

## Шчаслівая ў сваім пакліканні

Ліля пражыла ў Цюмені паўгода. Ксёндз блаславіў яе і адправіў у Польшчу да сясцёр Служак Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. У 1999 годзе ў Ломжы дзяўчыну прынялі ў пастулят. Праз тры гады былі складзены першыя шлюбы. А ў 2007 годзе 1 жніўня ў генеральным доме ў Мар'еўцы сястра Лілія склала вечныя шлюбы.

Некалькі гадоў яна працавала катэхеткай у Беларусі. Потым выехала ў Польшчу, а затым зноў вярнулася і ўжо амаль 10 гадоў працуе ў бібліятэцы Вышэйшай Духоўнай Семінарыі ў Гродне.

**"Бог для мяне – Той, хто любіць і прабачае, лечыць і чыніць вялікія цуды, прысутнічае, але ўтоены, дзейнічае і любіць здзіўляць, дакранаецца і хаваецца, бо Яму так даспадобы. Гэта Той, хто вельмі шчодры і раздае свае ласкі, Той, хто адкрывае маё сэрца і пранікае ў маю душу. Яго Слова жыве ў маім сэрцы: гэта пранізваючы голас, які змяняе мяне паводле сваёй волі. Бог дае крыж і ласку, каб яго прыняць і палюбіць. Ён заўсёды верны свайму слову і ведае, як для мяне будзе лепш. Я пазнаю Бога кожны дзень, гэтым жыву. І ў сваім пакліканні я вельмі шчаслівая".**

*Ангеліна Пакачайла*

# "Рось – гэта месца цуду..."

стомленасці таксама вялікай радасці і "полымя жыцця", шчасця. Часта ў пілігрымку з сабой бяруцца не толькі свае асабістыя інтэнцыі – многія прывозяць з просьбамі іншых, самых блізкіх. Многія праз некаторы час дзякуюць Пану, што Ён выслухаў іх просьбу, што паклапаціўся, даючы адказ. Часам мне балюча чуць, што нешта "ўдалося", "атрымалася" – так, нібы Бог не мае з гэтым нічога агульнага. Але часцей за ўсё можна пачуць цудоўныя сведчанні досведу Божай любові, а з гэтым звязана перамена жыцця, калі памірае "стары чалавек" і нараджаецца "новы".

**Чым у звычайны будзённы дзень жыве санктуарый у Росі?**

"Санаторый Езуса" наведваюць не толькі падчас рэкалекцый ці пілігрымак. Многія прыбываюць сюды на працягу ўсяго года, каб у цішыні сустрэцца з Езусам Журботным, часта адчуваючы Яго дотык у заступніцкай малітве.

**На якім этапе знаходзіцца будаўніцтва рэкалекцыйнага дома?**

Каб магчы прыняць усіх жадаючых і тых, каму неабходна дапамога, мы распачалі будаўніцтва рэкалекцыйнага цэнтра "Дом Міласэрнасці", дзе многія змогуць перажываць рэкалекцыі ў кожныя выхадныя, каб не толькі знайсці і пазбавіцца ад перашкод для дзеяння Божай ласкі, але таксама каб узрастаць у святасці. Я хачу ад усяго сэрца падзякаваць людзям добрай волі за малітву і матэрыяльную дапамогу ў гэтай справе. Выражаю ўдзячнасць ад імя ўсіх тых, хто адчуе ў гэтым Божым доме любоў Пана.

**Ксёндз Чэслаў, падзяліцеся, калі ласка, адным з апошніх сведчанняў, якія Вы як кусташ санктуарыя ведзеце з запісаў у кнігах цудаў санктуарыя?**

Адно з апошніх сведчанняў, якое з'яўляецца радасным цудам, – гэта цуд паўстання новага жыцця. Сужэнская пара, якая на працягу чатырох гадоў шукала дапамогі ў з'яўленні патомства, звяртаючыся ў самыя лепшыя клінікі і не атрымліваючы ніякага рэзультату, знайшла цуд жыцця ў Езуса як адзінай крыніцы ў гэтым "Санаторыі Любові", як гэтае месца назваў сёлета ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч.

*Вялікі дзякуй за размову.*









### Салідарныя з хрысціянамі Блізкага Усходу

***У многіх касцёлах Еўропы звон званоў нагадаў пра праследаванне хрысціян на Блізкім Усходзе.***

*Ідэя гэтага простага жэста салідарнасці нарадзілася на Поўдні Францыі. У хуткім часе да ініцыятывы далучылася больш за 50 французскіх дыяцэзій, усе дыяцэзіі Бельгіі, а таксама Люксембург, Ісландыя і адна швейцарская дыяцэзія. У многіх касцёлах загучалі не толькі званы, але і спецыяльныя малітвы за братоў і сясцёр, што перажываюць праследаванні. Акрамя гэтага, французскае Міністэрства замежных спраў абвясціла аб правядзенні ў Парыжы вялікай міжнароднай канферэнцыі на тэму хрысціян і іншых праследаваных этнічных і рэлігійных меншасцей у Іраку і Сірыі. Удзел у ёй прыме 60 краін.*




### "Перамажы абыякавасць, выйграй супакой"

***Так гучыць тэма 49-га Сусветнага дня супакою, выбраная папам Францішкам. Гэты дзень будзе адзначацца ў каталіцкім Касцёле 1 студзеня 2016 г.***

*Паведамленне прэс-службы Апостальскай Сталіцы падкрэслівае, што "абыякавасць да бед нашага часу з'яўляецца адной з галоўных прычын адсутнасці супакою ў свеце". "Больш інфармацыі" не азначае "больш увагі" да праблем, калі гэта не суправаджаецца адкрыццём сумленняў на салідарнасць.*

*Сусветны дзень супакою з'яўляецца ініцыятывай бл. Паўла VI. Ён адзначаецца ў першы дзень года. Папскае пасланне, што выдаецца з гэтай нагоды, рассылаецца кіраўнікам усяго свету. Яно таксама акрэслівае лінію дзейнасці дыпламатыі Апостальскай Сталіцы ў дадзеным годзе.*




### Рыцары Калумба падтрымаюць хрысціянскіх бежанцаў

***Гэтае рашэнне было абвешчана Вярхоўным рыцарам Карлам Андэрсанам падчас 133-й штогадовай канвенцыі гэтай мужчынскай арганізацыі свецкіх каталікоў.***

*Рыцары Калумба прынялі рашэнне аб стварэнні Фонда дапамогі хрысціянскім бежанцам. У першую чаргу ён будзе накіраваны на падтрымку праследуемых вызнаўцаў Хрыста з Ірака і Сірыі. Арганізацыя распачне таксама адукацыйную кампанію, мэта якой – паказаць злачынствы супраць чалавецтва, якія былі ўчынены адносна блізкаўсходніх хрысціян.*

*Кінга Красіцкая*

## Адпуставая ўрачыстасць адбылася ў дзятлаўскай парафіі

***На святочную Імшу ў парафію Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі прыбылі святары з розных куткоў дыяцэзіі. Галоўным цэлебрантам быў айцец Ежы з Карэліч, які таксама прамовіў гамілію.***



У гамііі святар пажадаў, каб вернікі не баяліся даверыцца Марыі, якая ахінае плашчом сваёй мацярынскай апекі. Праз шматлікія прыклады святар паказаў, як важна “апрануцца ў шаты збаўлення”, разам крочыць з Хрыстом, а калі нешта не атрымалася, знайсці дарогу да паяднання.

Пасля Імшы вернікі прайшлі ў святочнай працэсіі вакол касцёла. Потым прагучалі словы падзякі пробашчу з нагоды першай гадавіны служэння ў дзятлаўскай парафіі. Удзячныя вернікі падзякавалі Найсвяцейшай Маці за цуды, а таксама за пакліканага да святарскага служэння кс. Здзіслава Пікулу SDB.

## У Смаргоні падзякавалі Богу за служэнне кс. Здзіслава Вэдэра SDB

***Святар працаваў у парафіі ў Смаргоні 13 гадоў, 12 з якіх быў пробашчам, а цяпер накіроўваецца на новае месца служэння.***



Ксёндз Здзіслаў Вэдэр застаўся ў памяці парафіян як мудры, пакорны чалавек, які прынёс людзям шмат дабра і карысці, шмат змяніў і перарабіў – пабудаваў салезіянскі араторый імя св. Яна Боско, у якім ужо 10 гадоў збіраюцца дзеці і моладзь для вучобы, гульні і малітвы, заўсёды быў адкрыты на дапамогу патрабуючым, сам рабіў першы крок насустрач чалавеку. Многія парафіяне называюць яго святым святаром, з якога яны бяруць прыклад.

У сваю чаргу кс. Здзіслаў у гаміліі падзякаваў Богу за час служэння ў Смаргоні, за тое, што мог там убачыць прыклад сапраўднай веры людзей і меў магчымасць разам з парафіянамі ўзрастаць у святасці.

## “Святы ксёндз Боско. 200 гадоў за 200 хвілін”

***Пад такім дэвізам у Смаргоні прайшоў турнір па міні-футболе, прысвечаны 200-годдзю з дня нараджэння святога.***



Турнір распачаўся святой Імшой, а затым працягнуўся ў спартыўнай зале, дзе дыякан Алег Каралёў SDB распавёў пра святога ксяндза Боска і яго працу з моладдзю, пра араторый у Смаргоні. У турніры прынялі ўдзел зборная парафіі св. Міхала Арханёла і зборная навучэнцаў ДНСУ “Дзіцяча-юнацкая спартыўная школа па футболе”. Гульня сімвалічна доўжылася 200 хвілін і скончылася з лікам 53:35 на карысць каманды парафіі св. Міхала Арханёла.

## “Ён вызначаўся вялікай адвагай і стараннасцю”

***13 жніўня ў парафіяльным касцёле Пана Езуса Міласэрнага і св. Андрэя Апостала ў Цяжкавіцах (Польшча) прайшло набажэнства пахавання ксяндза прэлата Міхала Сапаты. У святой Імшы прыняў удзел і дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.***



Ксёндз Міхал Сапата быў цесна звязаны з Гродзенскай дыяцэзіяй, у якой у 1998 г. распачаў пастарскае служэнне. У перыяд з 2005 па 2011 гг. ён быў Генеральным вікарыем Гродзенскай дыяцэзіі.

Біскуп Юзаф Станеўскі ўзначаліў пахавальную малітву на могілках у Цяжкавіцах. У сваім слове іерарх зазначыў, што кс. Міхал вызначаўся вялікай адвагай і стараннасцю, таму, калі выйшаў на пенсію, не хацеў быць рэзідэнтам пры якой-небудзь парафіі, але ў гэтым пажылым узросце адказаў на патрэбы Касцёла на Усходзе і паехаў у Беларусь.

Памяць памерлага ксяндза прэлата ўшанавалі таксама ў Гродне. Святая Імша цэлебравался ў касцёле імя св. Францішка Ксаверыя. У ёй прынялі ўдзел святары, якія служаць у парафіі, а таксама вернікі, якія пажадалі аддаць пашану і памаліцца за вечнае шчасце для памерлага кс. Міхала.

## Сястра назарэтанка са Шчучына склала манаскія абяцанні

***Сястра Ганна Мацуль з парафіі св. Тэрэзы ад Езуса (Авільскай) у Шчучыне склала свае першыя манаскія абяцанні ў касцёле Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста ў Чанстахове.***



На ўрачыстасць прыбылі сёстры назарэтанкі на чале з Генеральнай настаяцельніцай Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта с. Янай Завеяй. На гэтай важнай для ўсёй манаскай супольнасці падзеі прысутнічала і дэлегацыя назарэтанак з Беларусі. Сёстры сваёй прысутнасцю і малітвай падтрымлівалі с. Ганну, каб яна заўсёды ішла за голасам Езуса Хрыста, які кліча да служэння ў сваім Касцёле. Падчас гэтай урачыстасці, калі дзве сястры назарэтанкі склалі свае першыя манаскія абяцанні – чыстасці, убоства і паслухмянасці, – асабліва маліліся аб новых пакліканнях у супольнасць назарэтанак, у тым ліку і з беларускай зямлі.

## Моладзь дала сведчанне веры на вуліцах Гродна

***Хлопцы і дзяўчаты з розных парафій горада і ваколіц сабраліся на цэнтральнай вуліцы, каб праслаўляць Бога спевамі і танцамі.***



Як адзначыў Яўген Калеснік з парафіі Хрыста Валадара ў Азёрах, моладзь праводзіць жнівеньскія вечары ў праслаўленні Бога праз спеў духоўных песень, даючы такім чынам сведчанне сваёй веры і паказваючы сваім аднагодкам, многія з якіх праводзяць вечары з алкаголем, што варта заўсёды жыць з Богам.

“Мы ўсе аб'яднаны любоўю да Бога. Ён нас усіх пазнаёміў у пілігрымках, на днях моладзі. І так мы сталі неад'емнай часткай адзін аднаго. Мы не баімся праслаўляць нашага Пана і будзем працягваць такія сустрэчы”, – зазначыў Яўген.

## АНОНСЫ

### Адбудзецца IX Нацыянальная пілігрымка сем'яў

IX Нацыянальная пілігрымка сем'яў да Маці Божай Нястомнай Дапамогі адбудзецца
**12 верасня ў касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне *(Дзевятоўка)*.**
Яна пройдзе пад дэвізам
**“Любоў – нашае пакліканне. Сям'я, якая жыве ў паўнаце”.**
Гэта дэвіз Сусветнай сустрэчы сем'яў з удзелам папы Францішка, якая адбудзецца з 22 па 27 верасня ў Філадэльфіі (ЗША).

**Праграма Нацыянальнай пілігрымкі сем'яў:**

| | |
|---|---|
| **10.00** | **рэгістрацыя ўдзельнікаў;** |
| **10.30** | **прывітанне ўдзельнікаў;** |
| **11.00** | **выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту і святы Ружанец;** |
| **12.00** | **урачыстая святая Імша і аднаўленне сужэнскіх абяцанняў;** |
| **13.30** | **абед;** |
| **14.30** | **канферэнцыя;** |
| **15.00** | **інсцэніроўка;** |
| **15.30** | **Вяночак да Божай міласэрнасці;** |
| **16.00** | **заканчэнне.** |

## ПАДЗЯКА

### Згодна з дэкрэтам кс. б-па Аляксандра Кашкевіча, кс. Ян Раманоўскі, намеснік галоўнага рэдактара, накіраваны на вывучэнне філасофіі ў Іспанію ва ўніверсітэт Навары ў Памплоне.

Ад свайго імя, а таксама ад імя ўсяго рэдакцыйнага калектыва прагну падзякаваць кс. Яну за адданую працу па рэдагаванні нумароў нашай газеты і напісанні артыкулаў на працягу апошніх трох гадоў. Жадаю кс. Яну мноства Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Маці Божай, добразычлівых людзей побач, шмат радасці на кожны дзень, а таксама як мага больш прыемных уражанняў. Няхай Пан Бог блаславіць кожны Ваш дзень і адорвае сілай, цярплівасцю і добрым настроем падчас навучання ў Іспаніі.



***Кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар, разам з рэдакцыйным калектывам***

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### *Ці зрабілі Вы ў жніўні пастанову не ўжываць алкаголю?*




*Чарговае апытанне дае нам вельмі важныя адказы. Большасць рэспандэнтаў адказала, што не п'е ўвогуле, а тыя, хто ўжывае алкаголь, здольны ў жніўні зрабіць пастанову ўстрымання ад яго. Дастаткова вялікі працэнт апытаных не робіць такіх пастаноў. Нас вельмі цікавіць, па якіх прычынах.*

***Рэзультаты чарговага апытання каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*Гэта вельмі патрэбнае апытанне, вынікі якога даюць нам глебу для разважанняў. Перш за ўсё, цешыць той факт, што дастаткова вялікая група людзей не ўжывае алкаголю, а тыя, хто гэта робіць, здольны адмовіцца. Праблема алкаголю ў нашым грамадстве вельмі складаная. Перш за ўсё, неабходны менавіта такія своеасаблівыя посты, пастановы, устрыманні, каб паспрабаваць зразумець, што жыццё без алкаголю нашмат лепшае. З Божай дапамогай мы можам зрабіць многае. Тых, хто мае праблему з алкаголем, запрашаю ў абстыненцкія групы, якія існуюць пры буйнейшых парафіях нашай дыяцэзіі. Заахвочваю маліцца за ўсіх, хто знаходзіцца ў залежнасці ад алкаголю.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**28 жніўня 1982 г.** – кс. Ян Балтралік, *проб. Лабно;*
**30 жніўня 1973 г.** – кс. прэлат Юзаф Інгелевіч, *ген. вік., проб. Астравец;*
**30 жніўня 1991 г.** – кс. інфулат Міхал Арановіч, *ген. вік., проб. Гродна;*
**3 верасня 1987 г.** – кс. Апалінарый Зубелевіч, *проб. Канвелішкі;*
**4 верасня 1941 г.** – кс. Адольф Гродзіс, *проб. Першамайск;*
**4 верасня 1956 г.** – кс. Вацлаў Драб, *проб. Струбніца;*
**5 верасня 1939 г.** – кс. Баляслаў Корнь, *проб. Мікелеўшчына.*

Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі: **grodnensis.by, catholic.by**




# “Слова Жыцця” ў Facebook!

**Рэдакцыя адкрыла акаўнт у самай папулярнай у свеце сацыяльнай сетцы. Цяпер падпісчыкі старонкі “Слова Жыцця” будуць першымі даведвацца аб навінах з жыцця Касцёла ў Беларусі і ў свеце. Шматлікія артыкулы можна прачытаць з электроннага носьбіта ў любы зручны час.**

Рэдакцыя заклікае да інтэрактыву! Зараз “посты” “Слова Жыцця” можна каментаваць і абмяркоўваць. Інфармацыяй, якая найбольш зацікавіла, адным клікам дзяліцца ў віртуальнай прасторы з сябрамі. Увесь час на старонцы будуць адкрыты тэматычныя апытанні. Іх вынікі па традыцыі з’явяцца ў газеце з каментарыем эксперта.

Цяпер фота- і відэаматэрыялы сабраны ў альбомы. Гэта зроблена дзеля зручнай навігацыі па старонцы. Любы жадаючы можа адкрываць архівы, праглядаць іх і захоўваць на свой носьбіт нейкія асобныя фотаздымкі або відэастужкі.

Акрамя таго, карыстальнікі Facebook могуць задаваць пытанні рэдакцыі, дзяліцца сваімі ўражаннямі, пакідаць заўвагі і прапановы. Важна не забываць пра паважлівыя і сумленныя адносіны ў віртуальнай прасторы.

Будзем рады даведацца аб надыходзячых святах і розных падзеях у Вашых парафіях. Раскажыце пра іх рэдакцыі! Мажліва, менавіта Вашы навіны трапяць на старонкі газеты ў бліжэйшым нумары.

**Далучайцеся да газеты ў Facebook! Старонка “Слова Жыцця” знаходзіцца па адрасе**
**www.facebook.com/slowo.grodnensis.by.**



### Цікава

*Пантыфікі ўсхваляюць сацыяльныя сеткі. “Парталам да праўды і веры” назваў сацыяльныя сэрвісы папа на пенсіі Бенедыкт XVI. Яшчэ ў 2009 годзе ён адкрыў асабісты акаўнт у Facebook. Благаславіў зносіны ў сацыяльных сетках і заклікаў католікаў больш актыўна выкарыстоўваць іх для распаўсюджвання вучэння Касцёла.*

*Папа Рымскі Францішак – адзін з самых уплывовых карыстальнікаў сацыяльнай сеткі Twitter. Па дадзеных даследавання, праведзенага кампаніяй “Twiplomacy”, іспанамоўныя твіты Папы Рымскага былі перадрукаваны амаль 10 тысяч разоў, англамоўныя – 7,5 тысяч. На акаўнт папы Францішка падпісана больш за 19 мільёнаў чалавек!*

*Упершыню ў гісторыі старонку ў сацыяльных сетках адкрыў беларускі біскуп. Аляксандр Яшэўскі вядзе свой летапіс на Facebook з чэрвеня бягучага года, з часу, як папа Францішак прызначыў яго дапаможным біскупам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Сёння ў яго больш за 700 падпісчыкаў. Біскуп надае шмат часу віртуальным зносінам, евангелізуючы людзей праз інтэрнэт.*

***Ангеліна Пакачайла***



ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ’ЕКТЫВЕ

# Вернікі з касцёла Унебаўзяцця НМП у Лідзе адзначылі юбілей існавання парафіі

Падчас адпуставай св. Імшы, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, вернікі дзякавалі Богу за 15 гадоў існавання парафіі і за ўсіх айцоў піяраў, якія праз сваё служэнне ў парафіі дапамагалі ім наблізіцца да Бога.














*Кс. Валерый Марціноўскі*

## Мы з мужам католікі. Ён ахрышчаны, але не практыкуе веру. Як прымусіць яго хадзіць у касцёл?

*Як прымусіць хадзіць у касцёл свайго мужа? Прымусіць... Адабраць свабоду выбару, зрабіць сабе падданым, выхаваць на свой манер – гэта, канешне, абсалютна не адпавядае хрысціянскаму бачанню сужэнства і адносін паміж мужам і жонкай. Выбіраць, хадзіць у касцёл ці не, – свабодная і добраахвотная справа кожнага дарослага чалавека.*

*Што датычыць веры Вашага мужа, то з пастаўленага пытання вынікае, што ён не хоча верыць слепа. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, апісваючы характарыстыкі веры, зазначае наступнае: “У веры розум і воля чалавека супрацоўнічаюць з Божай ласкай: верыць – гэта справа розуму, які прымае Божую праўду па загадзе волі, каторую пабуджае Бог праз ласку” (ККК, 155). З вышэйсказанага вынікае, між іншым, што “вера хоча зразумець” (ККК, 158): “Я веру, каб зразумець, і разумею, каб лепей верыць” (св. Аўгустын).*

*Пераносячыся ў нашы рэаліі, можна, не пабаяўшыся, сцвердзіць, што ў сучаснага беларускага католіка пасля доўгіх гадоў атэізму ўсё яшчэ існуе вялікі недахоп ведаў на тэму веры. Людзі любяць падсумоўваць свае веды пра Бога і Касцёл павярхоўнымі прадпісаннямі рэлігійнасці: трэба хадзіць, трэба пасціць, трэба Божаньку прасіць і г.д. Усё гэта правільна, але чалавек нават падсвядома не можа на гэтым спыніцца, ён шукае глыбіні. Вось чаму так неабходны наш сістэматычны ўдзел у катэхезе ці самастойнае чытанне рэлігійнай літаратуры.*

*Акрамя гэтага, кожны з нас, ахрышчаных, патрабуе яшчэ і сведкаў веры. “Вучыць” верыць можна толькі сведчаннем свайго спаткання з Богам. Таму Вы, хто наведвае касцёл, але мае дома мужа, каторы не практыкуе, пакліканы часта задаваць сабе пытанне: якога Бога я паказваю свайму мужу як жонка? Ці штосьці змянілася ў маім жыцці пасля прыняцця Езуса ў касцёле? Ці маю я асалоду ад спаткання з Найвышэйшым? Ці пазнаю Яго і пра Яго? І гэтак далей.*

*Напрыканцы заахвочваю Вас да трывалай малітвы ў інтэнцыі навяртання Вашага мужа, бо, каб адказаць Богу на Яго заклік да любові, патрэбна Божая ласка, “якая папярэднічае і ўздзейнічае пры ўнутранай дапамозе Святога Духа, які кранае сэрца і навяртае яго да Бога, расплюшчвае вочы розуму і ўдзяляе асалоду ўсім, хто прымае праўду і верыць у яе” (ККК, 153).*

***Паводле catholicnews.by***

# Найлепшая каманда – СЯМ'Я!

Усе птушкі і жывёлы ведаюць, што важней за ўсё цэлая і бяспечная сям'я. Кожны ў гэтай сям'і мае сваё месца і заданне. Менавіта так усё гэта было цудоўна запланавана і створана Панам Богам, каб без збояў добра дзейнічала. Людзі адрозніваюцца ад жывёл і птушак тым, што маюць розум і волю, а не толькі інстынкт. Таму, ужываючы розум і сэрца, мы ведаем, што сям'я проста незамянімая.



ГЛЕДЗЯЧЫ НА ПТУШЫНУЮ СЯМ'Ю, ДЗЯКУЕМ БОГУ ЗА СВАЮ.



ТРЭБА АЗДОБІЦЬ ПА-МАЙСКУ МАЦІ КАРАЛЕВУ НАШУ.



У КАЗКАХ ЖЫЛІ ШЧАСЛІВА, БО МАЛІЛІСЯ ЦЯРПЛІВА.



ДЗЯЎЧЫНКІ ЛЮБЯЦЬ ШЧЫРА, КАЛІ ХЛОПЦЫ, ЯК РЫЦАРЫ.

Як добра, што ў нас ёсць мама і тата! Можна вучыцца ў іх дабрыні і любові, але трэба таксама не забывацца заўсёды з удзячнасцю маліцца за іх і ніколі іх не крыўдзіць. У кожнай культуры і ў кожную эпоху найбольшай пашанай былі акружаны бацькі. Гэта ніколі не можа змяніцца. Таму трэба памятаць, што мы павінны любіць і шанаваць тых, дзякуючы каму мы жывём. Наш клопат пра іх павінен ісці за імі праз усё жыццё, а пасля іх смерці – нястомная памяць у малітве.

***Бр. Тадэвуш, с. Эстэра, ларэтанка***

# Ад шчырага сэрца

Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем моцнага здароўя, радасці і мноства Божых ласкаў. Няхай кожная хвіліна Вашага жыцця будзе асвечана святлом Хрыста, а Маці Божая няхай заўсёды атуляе Вас мацярынскай ласкай і апекай. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а наша малітва стане для Вас духоўнай падтрымкай. Служыце Богу і людзям усім сэрцам і душой.

*Удзячныя вернікі з пар. Звеставання НМП у в. Міжэрычы*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Баклажцу з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, моцнага здароўя, душэўнага супакою, рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, а таксама добразычлівых людзей на святарскім шляху і поспехаў у душпастарскай працы. Няхай Найсвяцейшай Маці заўсёды ахінае Вас плашчом сваёй мацярынскай любові і апекі, а Дух Святы няхай суправаджае Вас па Божых сцежках. Шчасці Божа!

*З павагай былыя парафіяне з Навагрудка*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Дулю з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, благаслаўляе кожны Ваш дзень і адорвае здароўем на сто гадоў жыцця. Маці Божая няхай ахінае Вас сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць святарскую паслугу і нястомна адорвае сваімі дарамі. Жывіце ў здароўі і радасці, Ваша сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена супакоем і любоўю, а побач будуць добрыя і шчырыя людзі. Дзякуем за працу ў нашай парафіі, за абвяшчэнне Божага слова, за добрае сэрца і прыемную ўсмешку.

*З малітвай і ўдзячнасцю парафіяне з касц. св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

Паважанаму Ксяндзу Віталію Цыбульскаму з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, цярплівасці ў святарскай працы і душэўнага супакою. Няхай Бог умацуе Вас і дасць сілу і вытрымку. Няхай Хрыстос усё жыццё будзе побач з Вамі, а Маці Божая і Дух Святы разам са святымі Анёламі няхай абараняюць Вас ад нядобрых і злых людзей. Ад усяго сэрца дзякуем за малітву ў нашым касцёле. Шчасці Божа!

*З павагай парафіяне з касц. св. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Людвіку Станішэўскаму з нагоды Імянін жадаем усіх Божых ласкаў, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа, разважлівасці і моцы ў выкананні святарскай паслугі. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрца няхай будзе напоўнена супакоем і любоўю.

*З малітвай вернікі з касц. св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

Паважанаму Ксяндзу Людвіку Станішэўскаму з нагоды Імянін жадаем усяго найлепшага! Няхай Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, Святы Дух абсыпае шчодрымі дарамі, а Марыя ахінае сваёй мацярынскай апекай. Няхай кожны дзень будзе напоўнены радасцю і любоўю, а на твары заўсёды госціць усмешка.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Гнезна*

Паважанаму Ксяндзу Віталію Цыбульскаму складаем сардэчныя пажаданні з нагоды Дня нараджэння. Жадаем здароўя, цярплівасці, сіл у душпастарскай працы, усіх Божых ласкаў. Дзякуем за малітву і міласэрнае сэрца. Няхай добры Бог Айцец, Езус і Маці Божая ўзнагародзяць Вас.

*Удзячныя парафіяне з капліцы МБ Вастрабрамскай у Урцішках*

Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу з нагоды Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці і душэўнага супакою. Няхай добры Бог Вас благаслаўляе, Дух Святы шчодра адорвае сваімі дарамі, а Найсвяцейшая Маці ахінае любоўю і апекай.

*Удзячныя парафіяне з Воўпы*

Паважанай Сястры Клары Волчэк з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: здароўя на доўгія гады, шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень і душэўнага супакою. Няхай Езус Хрыстус апекуецца Вамі і дае неабходныя сілы ў працы, а наша Маці Марыя няхай падтрымлівае Вас і прытуляе да свайго сэрца.

*З сардэчнай малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Яну Раманоўскаму ад усяго сэрца прагнем падзякаваць за паслугу ў нашай парафіі! Дзякуем Вам за цярплівасць, дапамогу, падтрымку і адданасць, за мудрыя казанні і добрыя парады, за добрае сэрца і прыемную ўсмешку, за ўсё, што Вы для нас рабілі. Няхай добры Бог благаслаўляе Вас на далейшым шляху, а Святы Дух узмацняе сваімі дарамі. Няхай любоў і апека Маці Божай будуць Вам дапамогай і суцяшэннем у цяжкія хвіліны. Няхай побач з Вамі заўсёды будуць добрыя і адданыя людзі. Няхай Вам заўсёды спадарожнічае поспех у вучобе і добры настрой!

*З удзячнасцю і павагай былыя парафіяне з пабернардынскага касцёла*

Шаноўным Спадарыням: Антаніне Ханьчыц, Зоф'і Раманчук, Ганне Выдры, Ірыне Печынскай, Ірыне Станкевіч, Феліксе Быкоўскай, а таксама Спадару Станіславу Раманчуку з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя віншаванні: здароўя, шчасця і душэўнага супакою. Няхай добры Бог Вас благаслаўляе, Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі, а Марыя апекуецца і падтрымлівае сваёй любоўю. Няхай Вашы Анёлы-ахоўнікі заўсёды будуць побач з Вамі, чуваюць над Вамі і вядуць прамой дарогай да Пана. Усяго найлепшага!

*Парафіяне з Тэаліна, III Ордэн св. Францішка і Ружанцовыя колы*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; кс. Ян Раманоўскі, Юрый Лавыш; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by**; **http://www.slowo.grodnensis.by**;
Друк: **ГАУПП «Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4820; тыраж 6600; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная